Кошт 50 сантымау.




Пэдагогічна-грамадзкі штомесячнік беларускае нацыянальнае меншасьці у Латвіі.

Пад рэдакцыяй К. ЕЗАВІТАВА.

№ 7 (5).

Год II.

Травень 1927 году.

Латвія, Рыга, Гертрудзінская вул. № 80, кв. 4.

# БЕЛАРУСКАЯ ШКОЛА У ЛАТВІІ.

№ 7 (5). | Рыга, травень 1927 году | Год II.



**Да другіх угодкаў газэты «Голас Беларуса».**
Склад Рэдакцыі і Адміністрацыі „Голаса Беларуса“ у пачатку выхаду газэты, ўлетку і ўвосені 1925 году (№ 1 „Голасу Беларуса“ вышаў 10-га чэрвеня 1925 году).

## 5 гадоу працы Дзьвінскае Беларускае Дзяржаунае Гімназіі.

Адзіная цяперака на ўсю Латвію Беларуская Дзяржаўная Гімназія ў Дзьвінску сьвяткуе 28-га і 29-га траўня 5-ці годзьдзе сваей працы, якую яна распачала 1-га красавіка 1922 году.

Гімназія вельмі ўрачыста зьбіраецца адсьвяткаваць 5-я ўгодкі. Сьвяткаваньне займе 2 дні. 28-га траўня будзе адчынена выстаўка вучнёўскіх прац гімназіі, а 29-га траўня адбудзецца ўрачысты акт і спэктакль.

Вітаючы Дзьвінскую Гімназію, як выхавацельку новае, сьвядомае беларускае інтэлігэнцыі, мы жадаем ёй далейшага разьвіцьця і ўмацаваньня на карысьць нашае меншасьці ў Латвіі. Толькі выхоўваючы сьвядомую, захопленую нашым нацыянальна - сацыяльным адраджэньнем інтэлігэнцыю, мы зможамо ўмацаваць нашы нацыянальныя і сацыяльныя пазыцыі, атрымаць агульнае вызнаньне і здабыць для нашага многапакутнага народу лепшую долю і сьвятлейшую будучыню.

Каб ілюстраваць штодзённае жыцьцё Дзьвінскае Беларускае Гімназіі, мы ў сярэдзіне гэтага нумару нашага штомесячніка зьмяшчаемо шэраг фатаграфіяў, засьнятых у рожныя годы. У наступным нумару штомесячніка будуць дадзены клішэ з больш новых фатаграфіяў. Падрабязная справаздача аб сьвяткаваньні будзе зьмешчана.

# Цяжкое гора нашых школ і вучняў.

Да позьняй восені, да сярэдзіны кастрычніка і пачатку лістападу, нашы беларускія пачатковыя школы, як ў вёсках гэтак і ў гарадох, напалову пустуюць. У той час, як школы іншых нацыянальнасьцяў ужо з верасеня гудуць як поўныя калоды пчолаў, — у беларускіх школах заняткі яшчэ ня могуць быць распачаты, бо вучні працуюць у полі. Працуюць ня толькі тыя вучні, бацькі якіх маюць сваю зямлю і гаспадарку, але і такія вучні бацькі якіх не маюць ні зямлі, ні гаспадаркі, ні сталае працы, дзеці беззямельнага селянства і мястовага пралетарыяту.

Ужо з 5—6 гадоў беларускія дзеці становяцца на працу, спачатку як падпаскі і пастухі птушак, затым дробнай жывёлы і нарэшці робяцца „кваліфікаванымі“ пастухамі і парабкамі.

Рады былі-б бацькі хутчэй аддаць сваіх дзетак у школу, ды нямо́жна: згодна ўмовы павінны дзеці пасьціць аж пакуль ня выпадзе сьнег і пакуль сам гаспадар не выправіць пастушка да бацькавай хаты.

Позна начынаюць зьбірацца беларускія дзеці ў школу. Уж, здавалася бы, трэба было дольш пахадзіць у школу вясной, каб дагнаць прапушчаны час. Аднак, ня тое выходзе!

Ледзь-ледзь пачынае сьнег з палёў таяць, як зноў пачынаюць разыходзіцца ва ўсе бакі вучні яшчэ да Велікадня каля паловы ўжо закантрактовываецца ў пастухі і раз‘езжаецца па хутарох усей Латвіі.

Есьць такі закон, што вучняў нямо́жна брацу пастухі раней 15-га траўня. Дзе-хто прапануе падняць на моцы гэтага судовую справу супроць тых гаспадароў і бацькоў, якія да гэтага тэрміну бяруць і аддаюць вучняў на працу. Але што-ж ты зробіш, калі згаладаваўшы за зіму бацька і матка сьпяшаецца як мага хутчэй аддаць свайго дзяцёнка заможнаму гаспадару, каб той прынамсі пачаў добра карміць яго!

І вось з году-у-год заняткі ў нашых школах для пераважнай большасьці вучняў начынаюцца на месяц-два пазьней, а канчаюцца на месяц-паўтара раней, чым у іншых нацыянальнасьцяў. Зусім зразумела, што гэтая ненармальнасьць страшэнна адбіваецца на посьпехах вучняў.

Спыніць гэтае сумнае зьявішча, можна ня штрафамі і карамі, а толькі дапамогаю найбяднейшым вучням у школе; шляхам выдачы ім цёплых рэчаў і школьных сьнеданьняў, а таксама шляхам зьменаў у тэрмінах пачатку і канца школьных заняткаў у школах, каб прыстасаваць іх, і ў вёсках, і ў гарадох, да пачатку і канца палявых работ.

Калі мы ня можамо адразу настолькі палепшыць матэр‘яльнае становішча беларускіх сялян і мястовага беларускага пралетарыяту, каб даць ім магчымасьць не накіроўваць сваіх дзяцей на вёску ў пастухі, дык трэба гэтак распачынаць, вясьці і канчаць заняткі ў школах, каб гэты дзеці, скончыўшы пасьціць, мелі магчымасьць яшчэ папасьці ў школу і пасьпець прайсьці праграму.

Каб на аб‘ёме курса не адбівалася скарочаньне лічбы навучальных дзён, трэба ў гэтыя дні павялічыць лічбу навучальных гадзін і паставіць навучэньне такім чынам, каб яно як мага менш вымагала хатніх заняткаў. Ідэалам было-б, каб усё па курсу пачатковае школы прапрацовывалася ў клясе без „задаваньня“ на-хату.

На арганізацыю гэтае справы мы павінны зьвярнуць асаблівую ува-

гу, бо працэнт дзяцей-пастухоў у нашых школах нават у Рызе даходзе да 80%, а ў вёсках усе 100% дзяцей зьяўляюцца пастухамі.

Такім чынам, уся наша асьветная праца ў Латвіі залежыць ад таго, ці знойдземо мы спосаб даць магчымасьць вучыцца нашым маленькім беларусам-пастухам ці не?

Пераходзючы да канкрэтных прапазыцый, можна было-б прапанаваць гэткі парадак:

1) Заняткі ў падгатоўчых клясах усіх беларускіх школ, дзе вучуцца дзеці 7—8 гадоў, якія яшчэ не зьяўляюцца значнай дапамогай у гаспадарчай вясковай працы і якіх яшчэ не бяруць за падпаскаў, — пачынаюць з 1-га верасеня. Бацькі, пад страхам штрафу, які прэдугледжаны законам, павінны даставіць у школу сваіх 7—8 гадовых дзяцей не пазьней 1-га верасеня. За паўтара-два месяца да 15-га кастрычніка настаўнікі школы змогуць ужо значна падагнаць гэтых дзяцей у навучэньні.

2) З 1-га кастрычніка, пасьля „бульбянага тыдня“, пачынаюцца нармальныя заняткі ўва ўсіх клясах, прычым падгатоўчая кляса займаецца і прысутнічае ў школе штодзённа ні ў якім разе ня болей трох гадзінаў, з рэштай жа вучняў заняткі вядуцца ў працягу 5-ці гадзін.

3) Праграма павінна быць разьлічана так, каб за чатыры месяцы: лістапад, сьнежань, студзень і люты, яна была-б скончана. Сакавік астаецца на паўторываньня курсу, а ў красавіку і траўню, заняткі ідуць галоўным чынам з вучнямі, што канчаюць школу.

4) Для тых вучняў, што прыдуць паміж 1-ым кастрычнікам і 1-га лістапада, трэба адвесьці яшчэ адну асобную дадатковую гадзіну, 6-ю, каб падагнаць іх і да Каляд зраўняць з раней паступіўшымі.

5) Як правіла, моцна трэба завесьці па ўсіх школах, што пасьля 1-га лістапада і да Новага Году ніякіх новых прыёмаў і паступленьняў у школу не павінна быць: трэба, каб хаця гэтых два месяцы, лістапад і сьнежань, заняткі адбываліся нармальна без „пачынаньня спачатку“ з кождым новапаступіўшым вучням.

6) Пасьля Калядных канікул могуць быць прыняты новыя вучні, але ўжо на асобнай праверцы іх веды і ў належныя іх ведам клясы, каб гэта не затрымлівала працы ўсей школы.

Усе папярэднія увагі адносіліся да вучняў і праграмы, аднак трэба дадаць і яшчэ дзе якія увагі, якія датычаць ужо саміх вучыцялёў. Вучыцялі павінны перад пачаткам навучальнага году самым падрабязным чынам распрацаваць плян заняткаў ва ўсіх клясах школы. Гэты плян павінен сыстэматычна і пунктуальна праводзіцца. Інспэктура пры рэвізіях ад кождага настаўніка павінна вымагаць прэд'яўленьня гэткага пляну.

Зусім зразумела, што ў школе не павінна быць прагулаў, як з боку вучняў, гэтак і з боку вучыцеля. За гэтай справай павінны даглядаць самі бацькі і Школьныя Рады кождае школы.

**К. Езавітаў.**

# Сход Рады Беларускага Аддзелу.

У панядзелак 30 траўня ў Дзьвінску адбыўся чарговы сход Рады Беларускага Аддзелу. На сходзе былі прысутны: кіраўнік Аддзелу — гр. У. Пігулеўскі, прадстаунікі „Т-ва беларускіх вучыцялёў“ — К. Езавітаў, С. Маціеўскі і А. Махноўскі, прадстаўнік Т-ва „Беларуская Хата“ — М. Дзямідаў, прадстаўнік ад Т-ва „Рунь“ — Я. Шчорс і ад Т-ва „Прасьвета“ — П. Жэрдзі.

Рада разглядзела шэраг бягучых пытаньняў, сярод якіх некаторыя асабліва цікавы для нашага настаўніцтва.

Першым разглядалася справа аб пастанове Люцынскай Павятовай Школьнай Рады, якая прадпісала, каб у гэтым годзе

настаўнікі меншасьцёвых школ вытрымалі экзамен з латыскае мовы і набылі-б права выкладаньня яе ў меншасьцёвых школах. Рада Беларускага Аддзелу аднагалосна вітае думку аб тым, каб усе беларускія вучыцялі сдалі экзамен на права выкладаньня латыскае мовы ў сваіх беларускіх школах, прадстаўнікі беларускага настаўніцтва паінфармавалі, што шмат хто з беларускіх вучыцялёў, асабліва ў тых школах, дзе працуе ўсяго адзін настаўнік, ужо даўно фактычна прыступілі да выкладаньня латыскае мовы ў сваіх школах, але, разам з тым, Рада Аддзелу знайшла, што пастанова Люцынскае Павятовае Школьнае Рады ня мае пад сабой праўнага грунту і ня можа насіць абавязковага характару, бо закон прадугледжвае, каб вучыцялі абавязкова здалі экзамен латыскае мовы толькі ў 1930 годзе. Каб, на моцы сваей пастановы, Люцынская Павятовая Школьная Рада не распачала ў восені якіх-колечы рэпрэсыяў супроць настаўніцтва, Рада Аддзелу даручыла Кіраўніку Аддзелу вайсьці з належнымі захадамі да Агульнага Школьнага Дэпармэнту.

Другім пытаньнем разглядвалася справа аб летніх каротка-тэрміновых сельскагаспарскіх курсах для беларускага настаўніцтва. Курсы ўхвалена распачаць 7 чэрвеня і скончыць іх 18 червеня. У праграму курсаў войдзе: пчолаводства, гароднічтва, малочная граспадарка і жывёлаводства.

Шмат гутарак было з поваду платы за навучэньне ў Дзьвінскай Беларускай Гімназіі. Сялянства беларускае і беларускія рабочыя ў гарадох настолькі бедныя, што ня толькі ня могуць плаціць грошы за навучэньне ў гімназіі, але часам пуждаюцца яшчэ ў падтрымцы на пражыцьцё дзяцей у інтэрнаце пры гімназіі. Звольніць ад платы гімназія, згодна закону, можа толькі адну чацьвёртую частку вучняў, а рэшта тры чверці павінна плаціць па 4.000 рублёў у год.

Знайсьці гэткія грошы для большасьці бацькоў не пасілах. Дык гімназія: або павінна выключаць такіх вучняў (тады бедняк-рабочы, або беззямельны селянін ніколі на зможа даць сваім дзецям сярэдняе асьветы), або трэба шукаць спосабу, каб знайсьці грошы на ўзнос платы за навучэньне за гэтых бедных беларускіх вучняў.

Гімназія добра разумее свой абавязак перад беларускаю меншасьцю ў Латвіі, яна добра ведае, што ня можна ставіцца да нашых вучняў так, як ставілася да сваіх вучняў старая царская гімназія. Школьная Рада ўжывае ўсе магчымыя крокі, каб здабыць грошы на ўзнос Ураду платы за навучэньне: робюцца вечарыны, спэктаклі, латарэі, зьбіраюцца ахвяры, настаўнікі гімназіі робюць адлічэньня ад сваей пэнсыі. Але ўсяго гэтага, часамі, бывае мала і грошы не хапае. Тады частку вучняў, асабліва тых, што ня маюць належнага посьпеху ў навуках прыходзіцца звальняць. Былі і такія выпадкі, што дзе-з-каго прыйшлося спаганяць плату за навучэньне судовым парадкам. Праўда, гэта рабілася толькі тады, калі бацькі аказваліся людзьмі грамадзка несьвядомымі і, маючы магчымасьць унесьці плату за навучэньне, ухіляліся ад гэтага пад рожнымі довадамі.

Рада Беларускага Аддзелу ўхваліла на будучыну рабіць больш дэтальнае абсьледаваньне матэрыяльнага становішча бацькоў вучняў, каб не было мейсца якім-кочы несумленным заявам аб незаможнасьці, а зварот да суда прызнала не пажаданым.

Чарговы сход Рады Аддзелу намечана склікаць у канцы чэрвеня. На ім будуць заслуханы справаздачы аб працы Беларускіх Настаўніцкіх Курсаў і Беларускае Гімназіі за 1926-27 навучальны год.

**К. Езавітаў.**

# Як змагаюцца з нашай школай.

**(З Дзьвінскіх спатканьняў).**

На вуліцы Райніса спаткаў я аднаго вучыцеля беларускай школы з Дзьвінскага павету. Разгутарыліся.

—Даўно хацеў я пабачыцца з Вамі, Канстантын Барысавіч, каб пагутарыць ды парадзіцца!

— Во — кажу — добра! Давайце пагутарым не адкладаючы надалёк! У чым справа?

—А справа вось у чым. Канчае мой сын у гэтым годзе пачатковую школу, думаю аддаць у гімназію, ды ня ведаю на якой гімназіі спыніцца, у якую гімназію аддаць. Як вы думаеце, Канстантын Барысавіч?

— Чаго-ж тутака і думаць? — кажу я: — У нас-жа толькі і ёсьць адна Дзьвінская беларуская гімназія на ўсю Латвію. У Дзьвінскую гімназію і аддавайце!

Бачу чалавек нешта мнецца, хоча яшчэ нешта спытаць, ды раз-

думвае.

— Чаго вы круціцеся, — пытаю. — Кажэце проста, што ў вас тамака яшчэ за ліха?

— Ды вось бачыце, справа такая, кажуць, што ў расейскай гімназіі праграма лепшая, больш праходзюць і вучуць.

— Хто-ж гэта вам казаў?

— Ды тут.. людзі...

— Ды не, баценька, кажы ўжо— хто? Так будзе лепш, чым гуляць у сховы!

Пачырванеў чалавек, пакрахцеў, палез пальцам за каўнер кашулі, быццам яна зрабілася цясьнейшай і здавіла шыю, — аднак сказаў пару прозьвішчаў.

Зусім зразумела, што абодвы прозьвішчы маюць дачыненьне да дзьвінскіх расейцаў і іхняе гімназіі.

— Ну, а ці спыталіся вы ў якіх прадмэтах рожніца? — Па якому прадмэту ў расійскай гімназіі праходзюць болей?

— Пытаўся. Кажуць — па матэматыцы.

— Ну, а яшчэ?

— Больш не казалі.

Так! — Ну, а вы запыталі тлумачэньняў у дырэктара беларускае гімназіі з гэтага поваду? Спраўдзілі праграмы? Пераканаліся ў тым, што вам казалі праўду?

Не!... не пытаўся...

І не спраўдзілі?

Не! — не спраўдзіў...

— Так! — Ну, а пыталіся вы як тамака вучняў выхоўваюць? — Ці рыхтуюць з іх моладзь з панскімі і падпанскімі замашкамі, ці выхоўваюць іх так, як трэба выхоўваць сучасную інтэлігэнцыю: у пашане да працы і да простага, сярмяжна люду?

— Не пытаўся...

— Так! — Ну, а ёсьць у іх майстэрні для хлапцоў ды дзяўчат?

— Німа...

— А ці едзе гэтая гімназія са сваімі настаўнікамі і вучнямі да вас у вёску, каб пабыць сярод сваіх? Каб паставіць для свайго сялянства вечарыну, або прачытаць лекцыю?

— Не, — ня едзе! Ды нашы сяляне ў расейскую гімназію сваіх дзяцей і не пасылаюць, яны пасылаюць іх у беларускую гімназію.

Ну, а як жа вы беларускі вучыцель думаеце рабіць ліха ведае што? Няўжо-ж вы не разумееце, што ўсе гэты нагаворы на нашу гімназію робюцца толькі затым, каб перацягнуць да расейскае гімназіі пабольш вучняў-беларусаў?

Так... зразумела... але хто яго ведае! Я-ж хацеў, каб майму сыну лепш было. А тутака кажуць праграма лепшая! Ну я думаў і праўда.

— Кіньце слухаць нашых ворагаў! Трымайцеся моцна за сваё роднае і пасылайце свайго сына вучыцца ў беларускую гімназію.

Мы разьвіталіся.

Я йшоў і думаў: „Як подла змагаюцца з беларусамі некаторыя прадстаўнікі расейскае інтэлігэнцыі. Спачатку гады тры крычэлі яны на ўсю Латвіі, што ніякіх беларусаў німа, цяперака-ж, убачыўшы, што ад гэтага крыку беларусы скрозь зямлю не праваліваюцца, пачалі, забыўшы аб гонар і совесьць, пускацца на ганебныя абгаворы беларускіх школ“.

Але расьце нацыянальная сьвядомасьць у беларускіх масах. І калі яшчэ можна,—за чаркаю добрае наліўкі набрахаць і нажужжаць у вушы мяккацеламу беларускаму інтэлігэнту ўсякіх глупстваў аб беларусах, дык беларускія сяляне і рабочыя што раз мацней даюць адпор усякім наскокам на беларускія правы і гонар. І ў гэтым наша моц і будучыня.

**Кастусёнак.**

# МЭТОДОЛЁГІЯ і ПРАКТЫКА.

**А. Луцкевіч.**

## Як вучыць у новай школе.

(Канец).

Памятай, што першы варунак уважлівых адносін клясы да выкладу—гэта *зацікауленасьць*, якую ўвучняў будзіць: а) лёгка зразумелая будова выкладу (дыспазыцыя), б) прастата, яснасьць і жывасьць падачы новага матэрыялу, в) свабода, плаўнасьць і натуральнасьць мовы, згоднасьць формы выкладу з яго зьместам.

Карыстаючыся *эўрыстычным* спосабам выкладаньня зважай, каб пытаньні, якімі хочаш вызваць у вучняў пажаданыя прадстаўленьні былі заўсёды ўдачна сбудаваныя і памагалі вучням самім, дарогай вывадаў, даходзіць да новых прадстаўленьняў. Калі дайсьці гэтага не ўдаецца, ня муч лішне вучняў пытаньнямі, а сам растлумач істоту справы. Прымушай вучняў самастойна злучаць у адно цэлае ўсе драбніцы, якія выкрыты імі дарогай эўрыстычнай.

*Аб'ясьняй* зьвязна, ясна і плястычна, зварачаючы заўсёды ўвагу на гады і ступень разьвіцьця вучняў. Разьвівай выклад лёгічна, сыстэматычна і грунтоўна, асабліва адзначаючы складовыя часьціны выкладанае рэчы і галоўныя думкі. Ува ўсім знай меру: ніколі не зацямняй яснасьці ходу мысьлі лішнімі падробнасьцямі, не гавары доўга аб тым, аб чым даволі сказаць некалькі слоў. Затрымлівайся больш за ўсё на характэрных рысах, падбірай словы і выражэньні, якія-б дзеялі на чуцьцё і прадстаўлялі рэчы магчыма конкрэтна. Пільнуйся натуральнага парадку, не мяшаючы разнародных рэчаў. Пераходзь ад лягчэйшага да труднейшага, ад конкрэтнага — да абстрактнага. Сьцеражыся лішняй тэорэтычнасьці: што можна, замяняй практычнымі прыкладамі. Не давай вучням забыцца аб цэльнасьці рэчы. Ня траць часу на аб'ясьненьне таго, што зразумела сама сабой, або чаго вучні ў гэты мамэнт ня здольны зразумець. Не шкадуй часу, каб укласьці ў галовы вучням *істоту рэчы*: пакуль ня маеш пэўнасьці, што ўсе маюць правільнае прадстаўленьне аб рэчы, ня йдзі далей. Старайся галоўную ўвагу і зацікаўленасьць клясы накіраваць іменна на істоту рэчы. Паміж галоўнымі часткамі выкладу звальняй тэмп навукі, каб вучні мелі час здаць сабе справу з пачутага.

Пры *перакладах з чужых моваў* прывучай вучняў, каб абыймалі думкай цэлыя сказы, а не паадзінокія словы папарадку. Злучай пераклад з разборам, тады работа будзеісьці сьвядома. Аб'ясьненьні абмяжуй істотнай патрэбай, абыймаючы толькі тое, што безпасярэдна зьвязана з перакладаным творам. Разьбіраючы *тропы*, прывучай вучняў здаваць сабе справу аб замененых паняцьцях і адносінах паміж імі, а такжа аб мэце, дзеля якой зроблена замена. Выясьняй, якім станам душы адпавядаюць тыя ці іншыя *красамоўчыя фігуры*. Зварачай увагу на істоту, форму, варункі і розныя віды красы.

Старайся аб усестароннае *зразуменьне* і магчыма поўнае *прысваеньне* вучнямі выкладу на лекцыі. Хай будзе ясным зьмест кожнага новага тэрміну і выражэньня. Аб'ясьняючы значэньне слоў, да-

ваў іх этымалёгічны вывад. Навучаючы чужых моваў, звярачай увагу вучняў на аналёгію і розьніцу зваротаў і выражэньняў гэтых моваў і беларускае мовы. Старайся, каб сталыя звароты мовы вучні паўтаралі не мэханічна, а сьвядома. Карыстайся чым больш паказальнымі мэтадамі, дапаўняй словы пісьмом і рысункамі на табліцы. Прывучай вучняў да ўдумлівасьці, уважлівасьці і правільных вывадаў. Давай чым-больш прыкладаў з рэальнага жыцьця, вядомага і блізкага вучням.

Прайшоўшы кожную мэтадычную часьціну, умацуй у памяці вучняў набытыя ведамасьці адпаведнымі *практыкаваньямі,* якія павінны прывучаць да самастойнага карыстаньня з новых ведамасьцей.

Пры *паўтарэньні* пройдзенага на папярэдняй лекцыі матэрыялу ня толькі старайся праверыць знаньне вучня, але і дапоўніць яго, паглыбіць, направіць абмылкі. Прымушай прыпамінаць ня толькі апошнюю лекцыю, але і ранейшыя, калі былі нечым зьвязаны з ей. Часьцей паўтарай рэчы труднейшыя і рэдка сустраканыя. Не забывайся также, што нават элемэнтарныя ведамасьці з ніжэйшых клясаў выветрываюцца з памяці вучняў.

Паўтараючы ў адпаведных момэнтах вялікшыя часьціны пройдзенага курсу, старайся, каб вучні зьвязывалі іх з нованабытымі ведамасьцямі і паглядамі і каб глядзелі на старое новымі вачыма.

## VI. Пытаньні і адказы.

Памятай, што *адказы* вучняў у значнай мэры залежаць ад таго, *як* задаюцца ім *пытаньні*. Дзеля гэтага зважай, каб твае пытаньні адпавядалі гэткім вымогам:

1. Пытаньні павінны быць уложаны *удачна,* значыць, павінны адпавядаць сваей мэце як з боку *зьместу,* так і *формы* і *тону*. Пытаньне мае быць кароткае, простае, лёгічнае, не вызываючы ў вучня ніякога сумляваньня, чаго хоча вучыцель. Галоўную частку пытаньня адзначай голасам. Сьцеражыся пытаньняў лішне агульных, не азначаючых ясна прадмету, а так сама пераноснае формы, чужых слоў і непатрэбных дадаткаў. Мяркуй, каб форма і зьмест пытаньня адпавядалі сілам і разуменьню вучняў і пабуджалі іх да самастойнае думкі. Парадак задаваньня пытаньняў павінен быць лёгічна абаснованы і сьвядома весьці да пажаданае мэты.

2, Пытаючыся, зьвяртайся да ўсяе клясы. Задавай пытаньні раўнамерна ўсім вучням, уважаючы, каб труднейшыя пытаньні выпадалі больш здольным і разьвітым вучням. Зважай, каб пытаньне сваім зьместам не давала і адказу.

3. У меру магчымасьці, прывучай вучняў абасноўваць свой адказ, каб мець пэўнасьць, што ён дадзены сьвядома і самастойна.

4. Вымагай, каб адказ знаходзіўся ў арганічнай сувязі з пытаньнем. Адказ павінен быць: a) ясны, поўны, высказаны правільнай мовай і—асабліва ў малодшых клясах—поўным сказам; b) самастойны ўдачны, правільны з боку зьместу, абаперты на добрым зразуменьні рэчы, c) высказаны плаўна, голасна, выразна, спакойна, з належным націскам і так, каб чула ўся кляса.

5. Хай вучань перш, чым адказаць, абдумае свой адказ. Калі ня можа адказаць, памажы яму дадатковымі пытаньнямі, навясьці на правільную дарогу, але не паддавай сам адказу, хай знойдзе яго самастойна. Давай вучням волю ў выражэньні думкі. Не ганьбуй адказу, калі мае ў сабе хоць-бы частку праўды.

6. Прыймай адказ спакойна і спа-

гадліва. Крытыкуй і папраўляй, выслухаўшы цэлы сказ або комплекс сказаў. Прымушай паўтараць поўны адказ, калі дабіўся яго часткамі ці з папраўкамі. Не палохай войстрым тонам палахлівых, ці памалу думаючых вучняў. Такі тон магчымы толькі да вучняў ляных, свавольных, няўважлівых.

## VII. Як павінен трымаць сябе у клясе вучыцель.

*Гавары* жыва, горача, з пад'ёмам. Сам прайміся выкладаным прадмэтам, старайся ня толькі вучыць, а і *навучыць*. Старайся *зацікавіць* клясу, разьвязаць языкі вучням, а свой стрымлівай ад лішніцы. Гавары кароткімі яснымі сказамі, ужываючы стыль простага, але заўсёды жыва не манатонна; старайся, каб мова твая была плаўная, выразная, голас — ёмкі і чутны для ўсіх, тэмп—адпаведны па прадмету.

*Чытай* так, каб даць добры ўзор для вучняў. Ня ўжывай без патрэбы вучоных тэрмінаў і чужых і незразумелых слоў. Больш за ўсё цані праўду; калі-б сам у чым памыліўся, ня ўстыдайся паправіць абмылку чым хутчэй.

Карыстайся ўстаноўленым *учебнікам*. У часе лекцыі дзяржы ўсё ў памяці і бяз лішняе патрэбы не зазіраць у кніжку. Учэбнік можна дапаўняць, дыктуючы вучням тое, чаго тамака не хапае.

*Дзяржыся* з павагай, станоўча, цярпліва, зварачвайся да вучняў шчыра, ветла, прыхільна. Пануй над сабой і глядзі ня толькі за клясай, але і за самым сабой. Калі цябе ўзбурыла паступаньне вучняў, ленасьць, ці няўважлівасьць, рэагуй станоўча, але з спакоем, не выяўляючы імсьцівасьці і заўзятасьці. Будзь аднолькавы з усімі вучнямі, адносячыся справядліва і забываючы абіды. Ня будзь панурым і вялым.

Старайся быць натуральным, сьцеражыся выклікаць сваімі словамі, пастулкамі, рухамі сьмех і насьмешкі. Ня ўжывай абідных для вучняў слоў і лаянак, ня зьдзекуйся і не насьмяхайся. Сьцеражыся нясмачных дасьціпаў. Не адпіхай ад сябе вучняў холадам, не старайся паказаць сваю вышэйшасьць ці ўладу над імі, не давай повад дзеля абразы цябе.

*Умела карыстай з часу.* Ня трацъ яко ў клясе на справы, якія ня маюць нічога супольнага ні з навукай, ні з школьнымі справамі. Ня пытайся аб рэчы, якіх вучні ня могуць ведаць. Калі з некалькіх адказаў відаць, што вучні ня могуць адказаць на пытаньне, — кінь пытацца далей і сам выясьні справу. Сваручыся на вучняў, знай меру. Прызывай да парадку сур'ёзна, каротка і станоўча.

Поглядам і голасам *пануй над клясай.* Уважай на ўсё, што робіцца ў клясе. Займай такое мейсца, каб усіх і ўсё бачыць. Ня бегай па клясе, не рабі сам шуму, бо гэта аслабляе ўважлівасьць вучняў.

Калі бачыш, што кляса замарылася, — ажыві яе словам, або дай матэрыял, які збудзіць цікавасьць. Зварачвай увагу на вымаганьні школьнае гігіены.

Глядзі, каб страх не адбіваў ахвоты да працы і не аслабляй сілы слабейшых вучняў.

## VIII. Ацэнка знаньня у вучняў.

Зварачвай увагу, каб вучні *акуратна прахадзілі кожную лекцыю.* Даючы пытаньні ўсей клясе, затрымлівайся больш над вучнямі, якіх трэба лепш пазнаць, каб ацаніць іх поступ у навацы. Давай вучням магчымасьць поўна выказаць думку.

*На экзаменах* падбірай такія пытаньні, каб вучні выявілі ня толь-

# Дзьвінскую Дзяржаўную Беларускую Гімназію вітаемо з пяцігодзьдзем!

## Красавік 1922 году — Травень 1927 году.



У адным з клясаў Дзьвінскае Беларускае Гімназіі, у 1922-23 навучальн. г.



Вучні Дзьвінскае Беларускае Гімназіі ўлетку 1923 году працуюць у садзе пры гімназіі.

# Умеем працаваць,—і у балеце ня зломкі!



Група вучаніц з балетнага гуртка Дзьвінскае Беларускае Гімназіі ў зале на рэпэтыцыі.



Слясарна-такарная майстэрня і кузьня пры Дзьвінскай Беларускай Гімназіі. З молатам у руках стаіць малады беларускі паэта А. Бартуль.




Агульная група вучыцялёў і вучняў Дзьвінскае Дзяржаўнае Беларускае Гімназіі, сфатаграфаваная ў зале Гімназіі ў траўню 1926 году.



Вучнёўскі хор Дзьвінскае Беларускае Гімназіі ў 1924 годзе. У цэнтры кіраўніца хору гр. П. Мядзіолка, поплеч з ёй латвійскі паэта Я. Райніс і былы дырэктар гімназіі І. Краскоўскі.



Шавецка-ткацкая майстэрня для вучаніц Дзьвінскае Беларускае Гімназіі.



Сталярная майстэрня для вучняў Дзьвінскае Беларускае Гімназіі.

кі запас сваёй веды, але і сваё *духовае разьвіцьцё*. Пры гэтым, рахуйся з *індывідуальнасьцю* вучня, з яго духовымі сіламі, вымагаючы ўсё-ж-ткі ад кожнага мінімума знаньня. Сьлядзі за ходам мысьлі вучня, стараючыся выкрыць ня толькі тое, чаго ня ведаюць, але і тое, *што ведаюць*. Рахуйся з значэньнем і важнасьцю пытанага прадмэту і мейсцам яго ў школьнай навуцы.

Цані адказы вучняў *безстаронна і справядліва*. Зважай на тое, што вучань ведае, а ня толькі на недахваты ў веданьні прадмэту. Судзі аб вучню паводле таго, ці ведае ён і разумее *галоуныя рэчы*, хоць-бы не памятаў драбніц. Памятай, што сам ты здабыў свой запас веды дзякуючы многалетняй працы, і не вымагай такога-ж запасу веды ад вучняў за кароткі час навукі.

Зварачвай асаблівую увагу на здольнасьць вучняў *думаць самастойна*. Рахуйся з псыхічнымі мамэнтамі, якія ўплываюць на адказ. Работы памяці не стаўляй вышэй за работу мысьлі. Аканчальны прысуд давай не на аснове нейкага адзіночнага адказу, а на аснове цэлага раду ацэнак за даўжэйшы час.

## IX. Самакрытыка.

Разважыўшы вышэй пададзеныя увагі аб навуцы ў клясе, *аднясіся крытычна да сябе самога* і дай сабе шчыры адказ на гэтыя пытаньні:

1. Ці заўсёды прыходзіў у клясу адпаведна *прыгатаваушыся да лекцыі* як з боку матэрыяльнага, так і мэтадычнага? Ці выклад быў датарнаваны да духовага разьвіцьця і стану клясы? Ці здаваў ты сабе ясна справу аб значэньні твайго прадмэту ў школьнай навуцы? Ці ў выкладзе выяўляў ня толькі знаёмства з вучэбнікам, але і глыбейшую навуковую веду і шырэйшыя гарызонты мысьлі? Ці пры канцэнтрацыі навукі сам быў у належнай меры знаёмы з другімі прадмэтамі, выкладанымі ў тэй-жа і ў папярэдніх клясах?

2. Ці ведаў прозьвішчы вучняў і не паракручываў іх? Ці ня выклікаў вучняў без патрэбы на сярэдзіну клясы, або да асобнае лаўкі? Ці кожную чыннасьць выпаўняў разважна і з псыхалёгічным зразуменьнем? Ці сьцярогся прыпадковага прысуду над вучнямі? Ці прычыны непамысных вынікаў навукі не стараўся шукаць выключна ў вучнях, забываючы аб сабе і сваіх нястачах і абмылках? Ці ад першых няўдач ня губляў веры ў сябе і энэргіі?

3. Ці разьвіваў сваю *дыдактычную тэхніку?* Ці ня трымаўся сьлепа мэтадычных правілаў і не забіваў гэтым сваей уласнай індывідуальнасьці? Ці, адступаючы ад шаблёну, меў добрыя вынікі з навукі? Ці ўмела карыстаўся дыдактычнымі спосабамі? Ці ня быў бяздушным пэдантам? Ці не разыходзіўся з вымаганьнямі лёгікі?

4. Ці заўсёды выяўляў патрэбны *пэдагагічны такт?* Ці разумеў вучняў і псыхічнае жыцьцё моладзі? Ці меў сьвядомасьць, што сваім паступаньнем робіш належны ўзгадаваўчы ўплыў на вучняў? Ці ўмеў знайсьці належную меру ў адносінах з вучнямі, не дапускаючы лішняга панібрацтва, але і не стаўляючы сябе на не дасяжную вышыню? Ці заўсёды стараўся грунтаваць свае ўплывы на вучняў выключна на сваей маральнай вартасьці, а не на ўрадовым становішчы сваім? Ці заўсёды памятаў, што *вучыцель істнуе для школы, а ня школа для вучыцеля?*

5. Ці вучні запраўды мелі *карысьць* з тваей навукі? Ці ўзбагацілі запас сваей веды ясна зразумелымі новымі ведамасьцямі і навучыліся самастойна і сьвядома карыстацца гэтымі ведамасьцямі?

(Канец).

**А. Луцкевіч.**

# З ГІСТАРЫЧНАГА МІНУЛАГА.

## Люцынскі замак у канцы XVI стагодзьдзя.

Люцынскі замак апісаны быў рэвізарамі вялікага кн. Літоўскага (Беларускага) ў канцы XVI ст. (1580-я годы). Вось зьмест гэтага апісаньня, у скарочаньні, паводле копіі 1698 г.

„Пабудаваны замак гэты на даволі высокай горцы; з двох старон акружаны возерам, а з трэцяй — а'сыпаўшымся сухім перакопам; будаваны больш з цэглы, чым з камяня. Кругом замку мураваная сьцяна, ня вельмі тоўстая, але ня дрэўная і ня нізкая. Ад уезду ў замак ёсьць крыху дрэўлянага частаколу, ў частаколе дрэўляная брама з добрымі дубовымі варотамі, з прыбрамкам, вароты набіты зялезнымі цьвякамі, на зялезных завесах, з ланцугом, а прыбрамак з засаўкай, куной (рас.: „щеколда“) і скобляй, над гэтай брамай дрэўляная баштка.

„У ходзячы ў падзамча („место“), — брама у мураванай сьцяне, вароты дубовыя, футраваныя, абабітыя зялезнымі цьвякамі, на залезных завесах з двумя „сьляпымі“ замкамі, пры адным з іх вялікі зялезны ланцуг а пры другім зялезнае кальцо. У варотах— фортка на зялезных завесах з „сьляпым замком (запіраным з сярэдзіны) і з засаўкай. Пры гэтых варотах, у сьцяне, — дубовая тоўстая куна (якой засуваюцца вароты з сярэдзіны). Над гэтымі варотамі, на сьцяне, была башта, будаваная з бэляк, але ад яе асталіся толкі сьляды — бэлькі згнілі. Кругом падзамча — мураваная сьцяна, як гаварылася вышэй. Пры сьцяне, кругом яе, з сярэдзіны — галерыя, новая, яшчэ не пакрытая, на каторую з чатырох старон сходы. На сьцяне новая башта, добра побудаваная, з дахам. У гэтым-жа перадзамчы, пры варотах старажоўка для стражы; недалёка ад яе былі будынкі, часьцю жылыя, цяпер-жа ёсьць толькі дзьве старыя сьвятліцы, адна супроць другой, з сенцамі, для падстарасты, з простымі пячамі, з шклянными вокнамі, з дзьвярыма на завесах, з скоблямі і засаўкамі, ў іх сталы і кругом лавы. Там-жа, далей ёсьць некалькі хацін, але яны ўжо валюцца, згнілі. Па другой старане — пякарня, пры ей — сені і сьвятлічка. З паўночнай стараны — стайня, пабудаванная саўсім добра, на 100 коней. Там-жа, непадалёк, — новая саладоўня, пры ей — сені і новая сьвятліца. Пасярод гэтага прызамчышча — харомы, у каторых вялікая сталовая: з простай печчу і загнетам (рас., „очаг“); у гэтай сьвятліцы два сталы і абапал лавы, дзьверы ў сьвятліцу на пятніку; з гэтай сьвятліцы дзьверы ў сьвятлічку, такжа на пятніку, з кручком, у ей загнет і з гэтай сьвятлічкі дзьверы надвор, а другія ў другую сьвятлічку, а з гэтай сьвятліцы—ў патрэбнае мейсца, дзьверы на пятніку.

**Замак або дзяцінец.** „У дзяцінец вядзе скляпістая доўгая брама, у ей — старыя дубовыя вароты, абабітыя наскось дошкамі, з зялезным ланцугом, у іх прыбрамак на завесах, са сьлепым замком, у сьцяне дубовая куніца засуваць вароты. У гэтай браме, справа, быў склеп, але цяпер зруйнаваны. У вайшоўшы ў дзяцінец, з правай стараны былі аднопаверхія будынкі, са скляпамі пад імі, цяпер абваліўшыміся. За гэтымі будынкамі, ў куце — піваварня, папраўленая цяперашнім панам старастам, у ей піваварня прылады: вялікі ка-

цёл, жалабы, кадзі і інш. Каля піваварні, на чацьвертай старане дзяцінцу — вялікая башта, пабудаваная з цэлгы, паднімаецца над сьцяной; пад ей, у нізе, — склеп, новапабудаваны і папраўлены цяперашнім старастам, са скляпістым ўходам; дзьверы у склеп на зялезных завесах, з засаўкай і скобляй; у гэтым склепе адно невялічкае акно для срамбы з зялезнай кратай; у гэтым склепе невялічкі скляпок, дзьверы ў ім на зялезных завесах, з засаўкамі і скобляй. Каля гэтай башты у куце былі будынкі, але заваліліся і зруйнаваліся. Пры браме, злева,—збройня, папраўленая цяперашнім старастам, у яе вядуць добрыя дзьверы з крэпкім запорам.

**Замак.** „Да яго ведуць круглыя дрэўляныя сходы з балясамі абапал. З трох старон ідзе дрэўляная галерыя; пры галерыі ў старану сходаў, — сьвятліца у тэй башце, аб каторай было сказана вышей, у сьвятліцы тры акны з зялезнымі кратамі, ашклёныя, дзьверы на зялезных завесах, цэгляны комін, печ, ганачак для музыкі. Над гэтай сьвятліцай коўната да абароны замку, пяць вокан з трох старон. Ідучы далей галерыяй у другім куце, каля варот,—дзьверы ў сені, на завесах, з сяней налева — сьвятліца нядаўна папраўленая, са ўсімі прыналежасьцямі: з печчу, з вокнамі, са сталамі, лавамі з запорамі. Каля яе, над брамай, — другая дрэўляная сьвятліца, у ей тры акны са шклом, стол, лавы, дзьверы на завесах, перад ей — дрэўляныя сходкі. З гэтых-жа сяней — трэцая сьвятліца, насупроць першай, у ей — кахлёвая печ, чатыры акны са шклом, стол, лавы, дзьверы на завесах. Увесь гэты замак пакрыты драніцамі. Гэты замак быў спустошаны Масквой; падупаў, трэба думаць, такжа і таму, што служкі нябошчыка Нарушэвіча, які быў там старастам, не папраўлялі яго; толькі цяперашняму старасьце Скарбку, удалося яго папpавіць, і, запраўды, ён яго у значнай меры немалым коштам паправіў.

„Замак гэты не вялікі і ня крэпкі, бо дужа блізка ад яго, ёсьць гара такой-жа вышыні, як і гэта, на каторай стаіць замак; на гэнай гаро вораг заўсёды можа ўладзіць блізкія шанцы і падкопам лёгка можа дабыць замак; за гэнай гарой, у лагчыне, можа бясьпечна схавацца некалькі тысяч ворага; з гэнай гары вялікі князь маскоўскі браў замак і лёгка яго ўзяў. Але замак гэты паложаны на вялікай маскоўскай дарозе, каля граніцы, і ён служыць шырокімі варотамі ў Літву (Беларусь) і Інфлянты; людзі ведныя у вайсковым умецтве, аб ім такой думкі: калі-б замак Люцын меў тысячу чалавек гарнізону, то могбы крэпка стаяць супроць ворага і з вялікай шкодай для апошняга бараніць пераходаў.

„За мастом, на гарэ, перад замкам ёсьць касьцёл, пабудаваны цяперашнім старастам; на тым мейсцы, дзе была здавён сьвятыня, — яе спаліла Масква. Царкве прыналежалі дзьве службы зямлі на 40 бочак жыта, але на якім мейсцы, — гэтага ніх-то ня мог сказаць, бо старых сялян, якія-бы там радзіліся, не было — іх усіх вырэзала Масква, а цяперашнія — прышлыя.“

**Власт.**

**Кожды сьвядомы беларускі інтэлігэнт, селянін і рабочы павінны прыймаць самы чынны ўдзел у працы беларускіх нацыянальна-культурных і грамадзкіх арганізацый.**

К Езавітаў.

# Беларусь у мінулым і сучасным.

## І. Паходжаньне беларускага народу.

Беларусамі завецца славянскі народ, які насяляе верхнія басэйны рэк: Дняпра, Заходняе Дзьвіны, Віліі, Нёмана і ўвесь басэйн ракі Прыпяці. На гэтай абшырнай тэрыторыі, якая складае 300.000 квадратных кілёмэтраў, жыве цяпера ка12.500.000 чалавек жыхарства, з яко 80% складаюць беларусы. З іншых нацыянальнасьцяў на першым мейсцы стаяць жыды, якіх налічваецца 10%, затым ідуць палякі — 4%, за імі расейцы — 2%, нарэшці ўкраінцы — 1%, усе іншыя нацыянальнасьці латышы, татары, цыганы і іншыя, складаюць разам да — 1%.

Да Усясьветнае вайны 1914-18 году на Беларусі налічвалася жыхарства больш за 15.000.000 чалавек, але вайна і нямецка-расейскі, а затым бальшавіцка-польскі фронты, якія ўвесь час перасоўваліся ад Нёмана да Дзьвіны — Дняпра па тэрыторыі Беларусі, — узялі шмат афяраў ад беларускага народу.

Паходзяць беларусы ад старага славянскага племені, якое само сябе называла „крывічы“, што азначае „крыўны“ або „свой па крыві“, родны адзін-аднаму, „радзімы“, „радзіміч“. Каб ведаць з якой мяйсцовасьці аграмаднага абшару, занятага крывічамі, паходзе той ці іншы крывіч, асобныя крывіцкія роды часта-густа называлі сябе яшчэ і па тэй мяйсцовасьці, дзе яны жылі. — Адсюль назовы: „палачане“—ад ракі Полаты, „дрыгвічы“*)—ад балоцістых „дрыгвяных“ абшараў Меншчыны, „Віцебляне“—ад Віцьбы, „гаране“—ад гарыстае мяйсцовасьці паміж Полацкам і Віцебскам і гэтак далей. Частка гэтых гістарычных назоваў захавалася ў народзе і да гэтага часу, а большасьць з іх загінула тады, калі ўлада пачала разьбіваць Беларусь на новыя адміністратыўныя тэрыторыі: воласьці, паветы і губэрні.

Беларусы вельмі чыста захавалі аж да гэтуль свае нацыянальна-славянскія рысы і адзнакі. Гэтаму дапамагло тое, што беларусы не былі змушаны да асіміляцыі з іншымі народамі. Цікава тутака адзначыць, што самі беларусы не жадалі асіміліравацца нават з тымі народамі, якія жывуць на тэрыторыі Беларусі з даволі даўняга часу: так, мяшаныя бракі з жыдамі, цыганамі, або татарамі на Беларусі немаль зусім не назіраюцца. Славянскі тып, славянскі быт і нават белая льняная славянская вопратка да гэтага часу ўва ўсей сваей чысьціне захавалася на Беларусі.

*) „Дрыгва“ — па-беларуску, дрыжачяе тарпяное балота, якое стварылася на мейсцу калішняга возера.

## II. Пачаткі беларускае дзяржаунасьці. Хрысьціянства і пісьменасьць.

Вялікі водны шлях „з Варагаў у Грэкі“, які пралягае праз Беларусь з паўначы на паўдзён, і другі вялікі водны шлях „з Захаду на Усход“, які нeкалькімі паралельнымі рэчнымі сыстэмамі празвае Беларусь з захаду на ўсход, — зрабілі тое, што ўжо больш 1000 год таму назад на Беларусі і праз Беларусь шоў вялікі гандэль. Беларускія гарады, якія кантралявалі гэты гандэль і прыймалі ў ім самы чынны ўдзел, вельмі ўмацовываліся, багацелі і аб‘ядновывалі каля сябе вялікія тэрыторыі. Полацк, Віцебск, Смаленск, Тураў

і іншые беларускія гарады ўжо за тысячагодзьдзе да нашае эры упамінаюцца, як багатыя гарады, у летапісох і хроніках, як суседзяў беларускіх гэтак і ў гандлёвых народаў Сярэдняземнага мора.

Хрысьціянства ўжо ў IX стагодзьдзі было знаёма беларусам. Сьледам за хрысьціянствам прыйшла на Беларусь і пісьменасьць, якая разцьвіла тутака пышнай кветкай і дала шэрагі ўсясьветна-вядомых славянскіх імёнаў.—Княжна Прадслава (Апрасіньня) Полацкая ўжо ў XII веку арганізавала ў Полацку цэлую школу перапішчыкаў кніг, Клімент Смаляціч, які, таксама ў XII стагодзьдзі, але ўжо ў Смаленску, шырока вызначыўся сваімі філёзоўска-літэратурнымі творамі, Аўрам Смаленскі, Кірыла Тураўскі, невядомы аўтар знамянітага „Слова аб палку Ігаравым“ — вось культурныя сілы Беларусі, якія высока ўзьнялі духоўнае беларускае жыцьцё ў беларускім нацыянальна-культурных і дзяржаўна-палітычных цэнтрах яшчэ ў XII стагодзьдзі. Гэта знача, што беларускі народ меў ужо магутныя вогнішчы культуры ў такі мамэнт, калі такія цяперашнія цэнтры ў суседзяў беларусаў, як Масква, Петраград, або Рыга,—зусім яшчэ не істнавалі.

Слаўныя культурныя традыцыі беларускіх гарадоў моцна трымаліся сярод тагачаснай крывіцка-беларускай інтэлігэнцыі, пранасіліся праз стагодзьдзі і ізліваліся на абкружаючыя беларусаў суседнія народы.

Полацк, Віцебск, Смаленск, Менск, Тураў і Вільня навыперадкі працуюць на пашырэньнем асьветы і над выпрацоўкаю моцных асноў грамадзка-праўнага ладу. Даволі перачытаць ўсякія юрыдычныя акты якіх захаваліся сотні тысячаў з XIV стагодзьдзя, або міжнародныя дакумэнты, напрыклад, граматы і гандлёвыя ўмовы з немцамі з XIII стагодзьдзя, каб пераканацца ў тым як высока стаяла белакультурнасьць таго часу.

Далейшыя стагодзьдзі прынясьлі з сабой яшчэ большы культурны росквіт Беларусі. Беларуска-літоўскі статут, гэты красамоўны памятнік і сьведка разьвіцьця беларускага права, нацыянальная і навукова-выдавецкая праца знамянітага беларускага вучонага, Дохтара Францішка Скарыны з Полацку, які ўжо ў 1525 годзе наладзіў у Вільні беларускі кнігадрук і выпусьціў біблію на беларускай мове ў такі момант, калі яна зьявілася 3-яй па лічбе з усіх бібліяў сьвету (першая—нямецкая, другая — чэская),—вось паказальнікі духовае роўні і духовае моцы беларускага народу.

## III. Часовая страта беларусамі сваяе незалежнае дзяржаўнасьці.

На моцным эканамічным грунце адбылося аб'еднаньне ўсяго народу беларускага ў Беларуска-Літоўскае Вялікае Княжства. Да гэтага дзяржаўнага арганізму далучыліся і некаторыя суседзі беларусаў: з заходу—жмудзіны (сучасная Літва), з паўдня — значная частка украінцаў. Польшча ў працягу некалькіх стагодзьдзяў апіралася на моцную руку Беларуска-Літоўскае дзяржавы, бачучы для сябе ў хаўрусе з Беларусьсю адзіны ратунак ад нямецкае навалы.

Усе гістарычныя варункі і краёвыя данныя абяцалі Беларусі доўгае, моцнае і спакойнае істнаваньне. Аднак, у дзяржаве адбываліся два працэсы, якія былі прычынаю яе заняпаду. Гэты працэсы: рэлігійнае змаганьне паміж каталіцтвам і праваслаўем і абнішчаньне шырокіх народных масаў, папаўшых у прыгонную залежнасьць да

многалічнага панства і шляхты. На тэрыторыі Беларусі пачынаецца войстрае і доўгае змаганьне „за Беларусь“ паміж Масквой і Варшавай.

У нашым караценькім аглядзе няма магчымасьці падрабязна выляжыць і асьветліць усе этапы, якія прывялі беларускія абшары пад карону расейскіх імпэратараў. Трэба падкрэсьліць, аднак, што той уціск усяго беларускага, аб якім гэтак часта і вялікім абурэньнем успамінаюць цяперака беларусы, пачаўся ў Расеі не адразу. Першыя 70-80 гадоў пасьля далучэньня, расійскія цары не адважваліся моцна ўціскаць Беларусь. Царыца Кацярына II, далучыўшы ў 1772 годзе да Расеі першыя кавалкі Беларусі, Віцебшчыну і Магілеўшчыну, знайшла патрэбным абвесьціць тутака нават асобнае Беларускае Намесьніцтва і за ўвесь час свайго караваньня не выяўляла нахілу да вынішчэньня ўсяго беларускага. Шавіністычнае імкненьне зрабіць з Беларусі „Западно-Русскій Край“ і зьнішчыць нават самае імя беларуса, замяніўшы яго назовам „западно-русс“,—прыйшло ўжо значна пазьней, у часы Мікалая І, які скасаваў Беларускае Гэнэрал-Губэрнатарскае Намесьніцтва і забараніў ужываньне беларускага друкаванага слова.

**К. Езавітаў.**

(Працяг будзе).

## Да 10-цігодзьдзя Уселатвійскага Вучыцельскага Хаурусу.

У Латвіі істнуе два вучыцельскіх хаўрусы, якія аб'яднываюць усё Латвійскае настаўніцтва ў дзьве процілежныя адна-аднэй групы.

Першая група, група дэмакратычнага латвійскага настаўніцтва, аб'еднанага каля „Уселатвійскага Вучыцельскага Хаўруса“, які ўтварыўся яшчэ 10 гадоў таму назад. Гэты хаўрус згуртаваў каля сябе ўсе істнаваўшыя ў 1917 годзе вучыцельскія таварыствы, раськіданыя па ўсей Латвіі і стварыў з іх адну моцную настаўніцкую арганізацыю. Сваёй шчыра-дэмакратычнай пазыцыяй і зусім шчырым вызнаньнем нацыянальна-культурных правоў меншасьцяў, гэты хаўрус прыхіліў да сябе і меншасьцёвыя настаўніцкія арганізацыі, якія адна за аднэй далучыліся да „Уселатвійскага Вучыцельскага Хаўрусу“.

Другая група латвійскіх настаўнікаў, якія лічуць сябе нацыяналістамі, але „нацыяналізм“ каторых часта-густа моцна папахвае самым выразным шовінізмам, — стварылі свой хаўрус, „Латвійскі Нацыянальны Вучыцельскі Хаўрус“. Гэты хаўрус значна маладзейшы за „Уселатвійскі Настаўніцкі Хаўрус“ і сымпатыямі меншасьцёвага настаўніцтва не карыстаецца, бо прадстаўнікі яго ўсюль, дзе толькі магчыма, заўсёды выступаюць супроць меншасьцёвых школ і меншасьцёвых правоў наагул.

„Уселатвійскі Вучыцельскі Хаўрус, сябрам якога зьяўляецца і нашае „Т-ва Беларускіх Вучыцялёў у Латвіі“, сьвяткуе 19 і 20 чэрвеня 10-цігодзьдзе свайго істнаваньня.

З гэтага поваду, 19 чэрвеня ў Рызе, у будынку IV Рыскае Мястовае Латыскае Гімназіі (каля вагзалу) у 11 гадзін зрана, адбудзецца ўрачысты сход, на які запрашаюцца прадстаўнікі ўсіх арганізацыяў, што ўвайходзюць у хаўрус, а таксамаі ганаровыя госьці, якіх чакаюць і з Літвы і з Эстоніі. Пасьля сходу адбудецца сяброўскі поўднік у Вялікім Верманскім Парку. Увечары ў тэй жа гімназіі ладзіцца концерт.

Ад беларускага настаўніцтва ў урачыстасьці прымуць удзел прадстаўнікі Праўленьня „Т-ва Беларускіх Вучыцялёў у Латвіі“.



Адна з клясаў 1-е Рыскае Беларускае Пачатковае Школы па Маскоўскім Фарштаце са сваім клясовым настаўнікам Я. Шчорсам і вучыцялем сьпеваў П. Сталяровым.

## Як абмаскаліваюцца беларускія дзеці у расійскіх школах.

У Латгалі, сярод беларускага жыхарства, шмат яшчэ працуе расійскіх школ.

У гэтых школах ідзе упартое змаганьне, каб „выбіць з вучняў беларускую мову і навучыць іх гутарыць толькі па-расійску.

Гутарыць па-беларуску вучыцялі забараняюць, бо гэта „мужыцкая“ „простая“ мова.

Тых вучняў, якія усе-ж-ткі гаворуць па-беларускі, вычыцялі караюць.

Каб вучні ўвесь час памяталі, што гаварыць па-беларуску няможна, у клясях разьвешаны асобныя лісты, на якіх напісаны беларускія словы, якія ў школе забаронена ўжываць.

Лісты гэтыя выглядаюць вельмі цікава. На адным баку ліста напісаны словы так, як гаворуць беларускія дзеці па-беларуску, і над гэтымі словамі надпіс: **„Як ня трэба гаварыць“**. На другой палове ліста напісаны пераклад беларускіх слоў на расійскую мову, і над гэтымі расійскімі словамі надпіс — „Як трэба гаварыць“.

Якія-ж гэта словы, якіх „ня трэба гаварыць“? — А вось якія. Праглядзеце гэткую табліцу:

| **Как не нужно говорить:** | | **Как нужно говорить:** | |
|---|---|---|---|
| Говорят | „Куды“ | А нужно | „Куда“ |
| „ | „Туды | „ | „Туда“ |
| „ | „Сюды“ | „ | „Сюда“ |
| „ | „Ен“ | „ | „Он“ |
| „ | „Яна“ | „ | „Она“ |
| „ | „Яно“ | „ | „Оно“ |
| „ | „Разьбірайцеся! | „ | „Разходитесь! |
| „ | „Сачыць“ | „ | „Следить“ |
| „ | „Быў“ | „ | „Был“ |
| „ | „Хадзіў“ | „ | „Ходил“ |

і гэтак далей, і г. далей.

На вочах у школьнае адміністрацыі нашых дзяцей абмаскаліваюць, гвалтам забараняючы ўжываць беларускую мову і прымушаючы іх гутарыць па-расійску.

Беларускі Аддзел павінен зьвярнуць на гэты факт належную увагу і прыняць адпаведныя крокі да таго, каб спыніць далейшое абмаскаліваньне беларусаў у Латгаліі.

**Кастусёнак.**

## Практычныя лекцыі на Рыскіх Беларускіх Настаўніцкіх Курсах.

Курсанты Рыскіх Беларускіх Дзяржаўных Настаўніцкіх Курсаў прыступілі да здачы практычных лекцый.

Кожды курсант павінен здаць тры абавязковых зачотных лекцыі, з якіх дзьве лекцыі прызначае пэдагогічная рада курсаў: (адна лекцыя беларускае мовы, другая — матэматыкі), а трэцяя лекцыя даецца, згодна ўласнага выбору курсанта, з таго прадмету які ён лічыць сваёй будучай спэцыяльнасьцьцю.

Практычныя лекцыі даюцца курсантамі ў 2-й Рыскай беларускай пачатковай школе, што на Чырвонай Дзьвіне. Большасьць лекцыяў дадзена задавальняюча. Есьць лекцыі, якія можна лічычь зусім задавальняючымі.

Усе лекцыі разглядаюцца на канфэрэнцыях лектароў-мэтадыстаў курсаў, супольна з курсантамі. Лекцыі, ацэніваюцца вельмі паважна, разьбіраюцца надзвычайна уважліва і дэтальна. Тыя лекцыі, што вызнаюцца незадавальняючымі, курсантам не залічваюцца і яны павінны даць па гэтаму прадмету новую лекцыю.

Трэба спадзявацца, што гэты выпуск Беларускіх Настаўніцкіх Курсаў хаця і будзе невялікім, але затое дасьць добра вымуштраваных беларускіх вучыцялёў.

Каштоўнасьць гэтага выпуску павялічваецца яшчэ тым, што ўсе курсанты, перадтым як паступіць на курсы, скончылі поўны курс беларускае гімназіі ў Латвіі.

**К. Е.**

## Прыймовыя іспыты ў Дзьвінскую Дзяржаўную Беларускую Гімназію.

З 1-га па 3-е чэрвеня ў Дзьвінскай Дзяржаўнай Беларускай Гімназіі адбудуцца прыймовыя іспыты для жадаючых паступіць ўва ўсе клясы. Заявы патрэбна прысланць да 1-га чэрвеня па адрасу: Daugavpils, Varšavas ielā, № 16. Valsts baltkrievu vidusskola.

## Дапамога вучням-беларусам у Люцыне.

Школьная Рада Люцынскай беларускай пачатковай школы ў 1926-27 навучальным годзе, як і ў папярэднія гады, шмат дапамагала бяднейшым вучням: 40 вучняў атрымала абутак, шмат вучняў у працягу ўсей зімы прыйшлося па меры магчымасьці карміць.

Вучні Люцынскае беларускае беднаты знаходзюцца ў такім цяжкім стане, што часта-густа ня маюць магчымасьці купіць сабе сшыток, або аловак. Дык Школьная Рада надзяляла ўсіх такіх вучняў вучэбнымі прыладамі за свой кошт.

У наступным навучальным годзе Школьная Рада мае на мэце зноў арганізаваць належную дапамогу вучням, а таму цяперака зьбірае грошы на абутак, школьныя дапамогі і гарачыя сьнеданьні пры школе, без якіх беларуская бедната м. Люцыну вучыць сваіх дзетак няможа.

## Нарада беларускіх вучыцялёў Люцыншчыны

У нядзелю 1-га траўня адбылася ў м. Ляўдарах нарада вучыцялёў беларускіх школ Люцыншчыны. Падрабязная справаздача аб гэтай нарадзе зьмяшчаецца ў № 57 (10) газэты „Голас Беларуса“, які выйвыйдзе ў чэрвеню месяцы.

РЭДАКТАР-ВЫДАВЕЦ **К. ЕЗАВІТАУ**.

Тыпаграфія Г. Іге, Рыга, Гертрудзінская вул., № 80.